ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 142 (5324)
Аўторак, 11 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.

Падзея

## Расійскі бізнес - для беларускай адукацыі

***У суботу на базе Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы Белдзяржуніверсітэта ў рамках адукацыйнага праекта расійскай нафтавай кампаніі ЮКОС "Поколение.ru" быў адкрыты першы ў нашай краіне цэнтр Інтэрнет-адукацыі.***

Рэалізацыяй праекта "Поколение.ru" у Расіі займаецца Федэрацыя Інтэрнет-адукацыі. Гэтая некамерцыйная арганізацыя была заснавана ў красавіку 2000 года. За гэты час на тэрыторыі Расіі створаны 18 цэнтраў Інтэрнет-адукацыі. Дзевятнаццаты – адкрыты ў Мінску.

Беларускі цэнтр стане базай для навучання Інтэрнет-тэхналогіям настаўнікаў усёй краіны. Ён абсталяваны на ўзроўні сусветных стандартаў. У цэнтры ўстаноўлены 50 сучасных мультымедыйных камп'ютэраў, інфармацыйныя серверы. Цэнтр падключаны да глабальнай сеткі Інтэрнет каналам сувязі з прапускной здольнасцю 128 Кбіт/сек. Штогод Інтэрнет-тэхналогіі тут змогуць вывучаць не менш за тысячу беларускіх настаўнікаў.

Нафтавая кампанія ЮКОС інвесціравала ў стварэнне беларускага цэнтра Інтэрнет-адукацыі 125 тысяч долараў ЗША. Штогадовыя дадатковыя інвестыцыі кампаніі ў забеспячэнне дзейнасці цэнтра будуць эквівалентны 140 тысячам амерыканскіх долараў.

Цэнтр стварыўся пры непасрэднай падтрымцы ўрада краіны і Белдзяржуніверсітэта, які ўзяў на сябе асноўную частку выдаткаў на рамонт і добраўпарадкаванне памяшканняў цэнтра.

У межах пагаднення паміж Міністэрствам адукацыі Беларусі, Федэрацыяй Інтэрнет-адукацыі і БДУ наша дзяржава бярэ на сябе аплату канала сувязі з Інтэрнетам.

Навучанне ў цэнтры будуць весці беларускія спецыялісты па тыпавых праграмах, распрацаваных у Федэрацыі Інтэрнет-адукацыі, якія пакуль не маюць аналагаў. Гэта – "Інтэрнет-тэхналогіі для настаўніка-прадметніка", "Выкарыстанне інфармацыйных тэхналогій у кіраванні адукацыяй", "Інтэрнет для адміністратара адукацыйнай установы" і іншыя.

Напэўна, гэта правільны шлях – не чакаць, калі Інтэрнет прыйдзе ў нашы школы, а ўжо цяпер пачаць рыхтаваць настаўнікаў да таго, што непазбежна. Падчас адкрыцця цэнтра ў Мінску міністр адукацыі Пётр Брыгадзін паведаміў, што беларускія школы атрымаюць чаканы выхад у Інтэрнет у бліжэйшыя гады.

Адкрыццё рэспубліканскага цэнтра Інтэрнет-адукацыі важнае і як прэцэдэнт. Нафтавая кампанія ЮКОС першая з прадстаўнікоў буйнога расійскага бізнесу прапанавала партнёрства ўладзе і грамадству. Годны прыклад для вялікага бізнесу – укладваць частку прыбытку ў будучыню сваёй краіны!

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

## Першы выпуск школы прапаршчыкаў

***У нядзелю (2 снежня) у Барысаве адбыўся першы выпуск прапаршчыкаў для Узброеных Сіл. Пасведчанні аб заканчэнні навучальнай установы і прысваенні воінскага звання "прапаршчык" атрымалі 247 вайскоўцаў.***

У адпаведнасці з загадам міністра абароны Рэспублікі Беларусь 1 чэрвеня бягучага года на базе праслаўленага 114-га гвардзейскага вучэбнага мотастралковага палка вядомай многім Пячанскай "вучэбкі" была створана школа па падрыхтоўцы прапаршчыкаў. Прыняцце такога рашэння ў ходзе завяршэння рэфармавання арміі было выклікана неўкамплектаванасцю войскаў кадрамі ніжэйшага звяна і іншымі спецыялістамі.

Ва ўрачыстым рытуале выпуску прынялі ўдзел міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў, яго намеснік генерал-лейтэнант Уладзімір Усхопчык, начальнік упраўлення кадраў ваеннага ведамства генерал-маёр Юрый Меранцаў, старшыня Барысаўскага райвыканкама Яўген Сівец, першы намеснік старшыні Барысаўскага гарвыканкама Сяргей Трусаў, а таксама ветэраны вайны і Узброеных Сіл.

Камісія па прыёму выпускных экзаменаў, якая складалася з афіцэраў ваеннага ведамства і воінскіх часцей, прыйшла да высновы, што падрыхтоўка курсантаў школы цалкам адпавядае сучасным патрабаванням. У перыяд здачы выпускных экзаменаў школу прапаршчыкаў наведалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Многія з іх служылі ў арміі і таму як прафесіяналы задавалі самыя розныя пытанні курсантам. Госці засталіся задаволенымі адказамі, а дэпутацкае папярэдняе меркаванне супала з канчатковымі высновамі экзаменацыйнай камісіі аб якаснай падрыхтоўцы прапаршчыкаў. Пра гэта сведчаць вынікі – 35 выпускнікоў скончылі школу прапаршчыкаў з адзнакай "выдатна", 167 – з адзнакай "добра".

На сустрэчы з маладымі прапаршчыкамі перад адпраўкай у войскі генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў падкрэсліў: "Першы выпуск новай ваенна-навучальнай установы Узброеных Сіл стаў практычным крокам цяперашніх пераўтварэнняў у арміі. Без добра падрыхтаваных прафесіяналаў у ротным звяне нельга наладзіць нармальны працэс баявой падрыхтоўкі ў войсках. Ад вашай працавітасці і адданасці справе абароны будучыня Узброеных Сіл.".

Без усякіх сумненняў, новая навучальная ўстанова зойме годнае месца ў агульнай сістэме падрыхтоўкі ваенных кадраў і зацікавіць тых, хто жадае прысвяціць сваё жыццё нялёгкай армейскай службе.

**Леанід ПРЫШЧЭПА,**
**прэс-служба Міністэрства абароны.**



Вучаніца 8 "В" класа гімназіі № 192 сталіцы Вольга Чарынец.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Канферэнцыі

## Патрыятызм - гэта сучасна

***У канцы лістапада ўпраўленне адукацыі Мінгарвыканкама і Мінскі гарадскі інстытут удасканалення кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі арганізавалі і правялі навукова-практычную канферэнцыю "Фарміраванне грамадзянскасці і патрыятычнай накіраванасці асобы юнага мінчаніна".***

Выхаванне школьнікаў у духу вернасці сваім грамадзянскім абавязкам вельмі актуальнае сёння. Неабходна выратаваць маладое пакаленне ад нігілізму, абыякавасці, вярнуць страчаныя традыцыі, выхаваць пачуццё адданасці сваёй Радзіме. Удасканаленне дзейнасці па выхаванню патрыятызму павінна арыентавацца на інтарэсы і асаблівасці розных катэгорый дзяцей і моладзі. Толькі тады гэтая ідэя зможа стаць сілай, якая дапаможа маладому пакаленню прыняць і палюбіць сваю Айчыну з усімі яе падзеямі, поспехамі, цяжкасцямі і праблемамі. Гэта - галоўныя тэмы, якія абмяркоўваліся на канферэнцыі. Асаблівая ўвага была звернута на стан і праблемы выхавання грамадзянскасці і патрыятызму ў вучняў у адукацыйных установах Мінска і на мадэліраванне выхаваўчай работы са школьнікамі з улікам асаблівасцей сталічнага соцыуму.

Падчас канферэнцыі працавалі тры секцыі. На першай секцыі разглядаліся пытанні фарміравання патрыятычных і грамадзянскіх установак у свядомасці і паводзінах юных мінчан як элемента сістэмы выхавання. На другой секцыі абмяркоўвалася праблема культуры ў маральна-этычным выхаванні мінчаніна. Трэцяя секцыя была прысвечана пытанням фарміравання грамадзянскасці і патрыятызму юных мінчан у працэсе выкладання школьных дысцыплін.

**Святлана СУБОЦІНА.**

*(Працяг тэмы – на 2-й старонцы).*

Семінары

## Тут адаграюцца сэрцы і душы

***Аддзел адукацыі Дзяржынскага райвыканкама з неаслабнай увагай ставіцца да работы сацыяльных педагогаў школ горада і раёна.***

Нядаўна пасяджэнне метадычных аб'яднанняў было прысвечана пытанню "Работа сацыяльнага педагога з дзецьмі з праблемных сем'яў". Удзельнікі семінара наведалі дзіцячыя ўстановы, дзе выхоўваюцца сіроты (у асноўным сацыяльныя - бацькі пазбаўлены на іх усялякіх правоў). Вельмі трапна ўстановы такога тыпу іншы раз называюць дамамі, дзе адаграюцца дзіцячыя сэрцы і душы.

Адна з такіх устаноў - Навасёлкаўскі сацыяльны прытулак, які адкрыўся сёлета на базе былога дзіцячага сада. Асноўная мэта ўстановы - часовая ізаляцыя дзяцей ад бацькоў (п'яніц, дармаедаў), якія ўяўляюць сабой небяспеку для здароўя свайго патомства.

У прытулку ўтрымліваюцца дзеці ад 4 да 15 гадоў да таго часу, пакуль не будзе вырашаны іх далейшы лёс.

Як правіла, дзеці паступаюць у прытулак у вельмі запушчаным стане, да ўсяго ж з хранічнымі прастуднымі хваробамі.

Дырэктар прытулку Людміла Сяргееўна Мірон, энергічны і дзелавы адміністратар, у той жа час клапатлівая і душэўная жанчына, робіць усё, каб пакрыўджаныя лёсам дзеці знайшлі тут утульны дом, у якім кожны выхаванец атрымае тое, чаго быў пазбаўлены раней: ласкі, любові, радасці. Дабрыня і цярпенне выхавальнікаў і адаграюць пакалечаныя душы і сэрцы. Цёплае слова, прыязныя адносіны ўсіх супрацоўнікаў прытулку робяць літаральна цуд - запальваюць на тварах дзяцей светлую ўсмешку.

Спецыялісты раённага Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей практыкуюць тэсціраванне і дыягностыку кожнага дзіцяці, даюць дакладна акрэсленыя рэкамендацыі па карэкцыі іх паводзін. Выкананне гэтых рэкамендацый дапамагае дзецям перамагчы агрэсіўнасць, наладзіць добрыя міжасобасныя адносіны, паглядзець на свет прасветленымі вачыма.

Другім такім домам, дзе ў поўным сэнсе слова ратуюцца дзіцячыя сэрцы і душы, з'яўляецца Станькаўская школа-інтэрнат для дзяцей-сірот, якія засталіся без бацькоўскай апекі. І гэтай справай тут займаюцца паспяхова ўжо сорак гадоў. Гэта было б немагчыма, калі б тут не працавалі настаўнікі з уласцівым ім талентам - своеасаблівым пачуццём суперажывання, адчування болі чужой бяды.

Знамянальна, што настаўнікі звяртаюцца да выхаванцаў толькі па імёнах, і звычайна ў ласкальна-памяншальнай форме. Падобнае практыкуецца з даўніх часоў, калі першым дырэктарам быў Мікалай Іосіфавіч Сетун. Гэтую традыцыю наследуе ў сваёй рабоце адміністратар і педагог Уладзімір Міхайлавіч Чабоцька.

У інтэрнаце цяпер працуюць 39 настаўнікаў: прадстаўнікі дынастый і сямейныя пары.

Сярод 197 сірот толькі 18 - круглыя, астатнія - так званыя сацыяльныя.

Вучэбна-выхаваўчы працэс тут наладжаны з такім разлікам, каб значную ўвагу надаць індывідуальнаму развіццю прыродных здольнасцей кожнага вучня.

Працуюць каля двух дзесяткаў гурткоў, ладзіцца шмат мерапрыемстваў - спартыўныя гульні, клубы выхаднога дня, віктарыны, экскурсіі і г.д. Летам - абавязковы адпачынак у мясцовым летніку "Дружба", у Італіі, Ірландыі.

Акрамя ведаў, прадугледжаных праграмай, выхаванцы набываюць шматлікія працоўныя навыкі. Гэта праца ў школьных майстэрнях, па самаабслугоўванні, у інтэрнатаўскай цяпліцы, на свінаферме, прышкольным участку.

**Тамара ШАЎЧЭНКА,**
**сацыяльны педагог.**

Навіны

### Цімкавічы заўсёды ветлівыя...

***Старшыня Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Аляксандр Вайтовіч на днях наведаў Капыльшчыну.***

Аляксандр Паўлавіч нарадзіўся ў колькі кіламетрах ад славутых Цімкавіч – у вёсцы Рачкевічы. Вядомы палітык, не зважаючы на службовую загружанасць, заўсёды імкнецца знайсці "акно" для паездак на радзіму – і паездак як мага больш плённых.

На гэты раз Аляксандр Паўлавіч наведаў Цімкавіцкую сярэднюю школу, выпускніком якой ён сам з'яўляецца. Яна сустрэла госця ветла і прыязна.

Паводле слоў дырэктара школы Ганны Шаравар, адбылася зацікаўленая размова Аляксандра Вайтовіча з прадстаўнікамі мясцовай улады пра шляхі ўдасканалення арганізацыі адукацыі на Капыльшчыне.

Аляксандр Паўлавіч падараваў роднай школе бібліятэчку кніг.

### Поспех прадвызначыла стыпендыя

***У свой час паэт Андрэй Скарынкін быў адным з першых стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў.***

Прызначэнне яму яму гэтай стыпендыі як своеасаблівай узнагароды Андрэй апраўдвае сваёю творчасцю.

Сёння ён – сталы літаратар, паэт з імем. Пра гэта засведчыла прэзентацыя ягонай чарговай кнігі "Альфа і амега" ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Да месца будзе згадка, што ёй папярэднічала прэзентацыя гэтай жа кнігі ў Маскве.

Як і належыць, паэт прапанаваў шматлікаму колу слухачоў – аматарам паэзіі – узоры высокамастацкай грамадзянскай лірыкі.

Прэзентацыя выклікала станоўчыя водгукі. Так, пісьменнік Алесь Савіцкі расцаніў чарговую кнігу паэта як значны ўклад у падмурак беларускай духоўнасці.

Маладая салістка Галіна Скіба выканала ў той вечар некалькі рамансаў на вершы Андрэя.

Варта дадаць, што паэт скарыстаўся выпадкам, прадставіўшы ўвазе сваіх прыхільнікаў і кнігу для дзяцей "Родничок", якую таленавіта праілюстравала мастачка Таццяна Беразінская.

### Госць школ Белаазёрска - "Зніч"

***Адукацыйная прастора Белаазёрска - горада энергетыкаў - адметная (тут працуюць дзве сярэднія школы, гімназія, ПТВ-82).***

***Упоравень з ёю - культурная. Колькі дзён таму горад наведаў сталічны тэатр "Зніч". Прычым дакладна адрасна - навучальныя ўстановы горада.***

На гэты раз актавая зала ПТВ-82 поўнілася вучнёўскай моладдзю горада. Яна прыйшла паглядзець-паслухаць мона-спектакль з такой прыцягальнай назвай – "Любіць...". Кіраўнік тэатра, вядомая артыстка-чытальнік Галіна Дзягілева, прапанавала кампазіцыю паводле лірыкі слыннага беларускага паэта Анатоля Вярцінскага.

Анатоль Ільіч, які прысутнічаў на спектаклі, пазнаёміў вучнёўскую аўдыторыю са сваімі новымі творамі, адказаў на шэраг пытанняў, якія тычыліся як ягонай творчасці, так і ўвогуле беларускай літаратуры.

Дарэчы, пастаноўка мона-спектакля ў Белаазёрску якраз супала з 70-гадовым юбілеем паэта.

Гасцямі юных белаазярчан у гэты вечар былі паэт Васіль Жуковіч і мясцовая знаная паэтка Ніна Мацяш.

**Наш кар.**

### Першы крок да сваёй вышыні

***Такі конкурс у Пухавіцкім раёне праводзіўся ўпершыню. Перад прызнанымі майстрамі сваёй справы своеасаблівы экзамен трымалі тыя, хто сам кожны дзень ідзе на ўрок, вучыць дзяцей, ставіць адзнакі. Паміж сабой спаборнічалі пяць удзельніц раённага конкурсу маладых настаўнікаў "Будучы прафесіянал".***

Конкурс праводзіўся ў два туры. У першым яго ўдзельніцы здавалі галоўны прадмет: паказвалі ў сваіх класах, як плануюць урок, выкладаюць матэрыял, валодаюць сучаснымі педагагічнымі методыкамі. Усе ўдзельнікі паспяхова справіліся з заданнем.

А другі тур конкурсу праводзіўся ў Рэспубліканскім цэнтры пазашкольнай работы "Світанак".

Паміж удзельніцамі на сцэне пачалася захапляльная барацьба. Педагогам трэба было паказаць сябе, як кажуць, ва ўсёй красе. Умовы патрабавалі знаходлівасці, выдумкі, арганізатарскіх уменняў.

Спаборніцтва паказала, наколькі разнастайны свет захапленняў маладых настаўніц, якія здольныя і цікавыя людзі прыйшлі вучыць дзяцей.

У кожнай з іх – наперадзе доўгі шлях да сапраўднага прафесіяналізму, майстэрства, а ўдзел у гэтым конкурсе – першы крок да сваёй вышыні.

### Яшчэ не пераваліся цімураўцы

***Ужо чатыры гады дзейнічае ў Воранаўскай сярэдняй школе Кармянскага раёна вучнёўскае грамадскае аб'яднанне "Клопат".***

***Усё пачалося з таго, што дзеці ўзялі шэфства над састарэлымі суседзямі ці знаёмымі людзьмі.***

Кіраўніцтва мясцовага сельсавета дамовілася з дырэктарам школы аб сістэматызацыі пачэснай справы. Быў распрацаваны статут аб'яднання, наладжаны ўлік таго, што зроблена і што трэба зрабіць.

Сельсавет вызначыў кола людзей, якім неабходна дапамога – воранаўскія цімураўцы прыбіраюць у іх хатах, на дварах, сякуць дровы, дапамагалі ва ўборцы ўраджаю.

У школу цяпер прыходзіць нямала пенсіянераў па дапамогу. І для дзяцей гэта не толькі занятак у вольны ад вучобы час, але і магчымасць добра навучыцца сялянскім клопатам. А ў канцы года сельсавет і школа мяркуюць матэрыяльна заахвоціць найбольш актыўных цімураўцаў.

### На вучобу - за мяжу

***Восем гадоў таму актывісты евангельскай лютэранскай царквы федэральнай зямлі Ніжняя Саксонія ўпершыню запрасілі на адпачынак групу дзяцей з сярэдняй школы № 49 Гомеля, якія займаюцца паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы.***

Тады якраз і ўзнікла ідэя ў выкладчыка нямецкай мовы гэтай жа школы Л.Ф.Вайцішыка адначасова з аздараўленнем вучняў праводзіць іх вучобу ў нямецкіх навучальных установах, каб замацаваць атрыманыя дома лінгвістычныя веды.

Гэтая ідэя знайшла сваё ўвасабленне. Гомельскіх дзяцей сталі адпраўляць на аздараўленне ў верасні, калі ў нямецкіх школах, як і ў нашых, пачынаюцца заняткі. Беларусы займаюцца ў гімназіі горада Люхау, знаходзячыся ў адпаведным моўным асяроддзі.

Сёлета там пабывала 18 вучняў старэйшых класаў разам з двума выкладчыкамі.

### Першая кніга школьніцы

***Вучаніца сярэдняй школы № 13 Мазыра Юля Каваленка на свой дзень нараджэння атрымала самы памятны падарунак. Пабачыла свет першая кніжка яе вершаў, якая была выпушчана пры садзейнічанні Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам.***

Юля – выхаванка Мазырскага цэнтра рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў "Вясёлка".

Дзяўчынка нарадзілася ў мнагадзетнай сям'і і яшчэ ў чацвёртым класе напісала свой першы верш.

Хвароба не зламала яе волю, а, наадварот, зрабіла больш успрымальнай да ўсяго, што адбываецца навокал.

Менавіта ў цэнтры "Вясёлка" талент Юліі Каваленка заўважылі і ацанілі, дапамаглі набыць упэўненасць у сабе.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

# У мінулым — жывыя каштоўнасці

***Мы ўступілі ў XXI стагоддзе, у якім школе адведзена роля выхавальніка творчай, маральнай, нацыянальна свядомай, патрыятычнай асобы, якая павінна валодаць многімі якасцямі, і сярод іх на першым месцы знаходзіцца грамадзянская культура. Што яе фарміруе? На якіх узорах і прыкладах мы зможам выхоўваць асобу і чалавека?***

Нельга не пагадзіцца з акадэмікам Д.С.Ліхачовым, які пісаў: "Любоў да роднага краю, веданне яго гісторыі – аснова, на якой толькі і магчыма ажыццявіць рост духоўнай культуры грамадства".

Патрыятычнае выхаванне ўключае ў сябе складаную сістэму работы, звязаную з фарміраваннем у вучняў пачуцця прывязанасці да тых мясцін, дзе яны нарадзіліся і выраслі, паважлівага стаўлення да гісторыі Бацькаўшчыны, дзяржаўнай сімволікі, традыцый свайго народа.

Я глыбока перакананы, што выпускнік 2008 года, каб самавызначыцца, самарэалізавацца і самасцвердзіцца ў сістэме грамадскіх адносін XXI стагоддзя, павінен валодаць многімі якасцямі, сярод якіх на першае месца я стаўлю грамадзянскую культуру. Ужо відавочна недастаткова проста гаварыць пра тое, што ім рашаць задачы XXI стагоддзя. Гэта яны лёгка разумеюць без нас. Надышоў час сумеснай працы, пошуку ісціны. Сёння важна ўсвядоміць: добра працуе той, хто добра мысліць, а творчае мысленне, як вядома, развіваецца перш за ўсё ў працэсе пазнання.

Настаўнік павінен дбаць пра тое, каб вучань працаваў. А гэта немагчыма, калі выхаванец не будзе напружваць свой розум, пераадольваючы пасільныя цяжкасці вучэння, ставіць пытанні і шукаць на іх адказы. Але, на жаль, сёння дзеці задаюць мала пытанняў. Гэтая дапытлівасць часта знікае. Прычына ў тым, што інфармацыйнае, дырэктыўнае выкладанне матэрыялу прыводзіць да таго, што ў вучняў страчваецца "запытальнае" стаўленне да рэчаіснасці, мінулага, мастацтва. Свет перастае быць крыніцай пытанняў, праблем. Што шукаць? Ісціны ўстаноўлены. Іх трэба толькі ўспрыняць, запомніць і ўзнавіць.

***

Упэўнены, прыйшоў час вызначыцца. Мы пастаянна спазняемся гаварыць праўду. І таму цяпер нельга не скарыстацца магчымасцямі прадметаў гуманітарнага цыкла для станаўлення чалавечай душы. Каб дасягнуць гэтага, неабходна зразумець, што ўрокі гісторыі, культуры – не там, дзе яны вызначаны праграмнай тэмай, адзнакамі, выстаўленымі за добрасумленнасць, і наадварот. Па маім перакананні, сапраўдны ўрок – гэта сумесны пошук ісціны настаўнікам і вучнямі, лабараторыя культуры мыслення. Урокі нашы – там, дзе мы змаглі ўзарваць, узбударажыць, разварушыць, закрануць сэрца, розум, калі радасцю запаліліся дзіцячыя вочы пры перамозе галоўных гістарычных герояў, а няшчасце, гора, пакуты выклікалі гнеў, усхвалявалі, напоўнілі болем за боль і пакуты іншых. Зможам так – значыць, мы сфарміруем патрыёта, грамадзяніна, чалавека.

Гісторыя – гэта праяўленне душы народа. А.С.Пушкін справядліва сцвярджаў: "Павага да мінулага – вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікасці". Мінулае сёння, як і раней, нагадвае пра сябе, і нагадвае такім пранізлівым крыкам, што паўстае пытанне: як такое магло адбыцца з Айчынай, людзьмі, краінай? Упэўнены, што мы даб'емся поспеху, калі вучань адчуе сваю прыналежнасць да гісторыі краіны, забудзе пра час, трапіўшы ў эпоху Гамера альбо эпоху будаўніцтва пірамід у Егіпце, стане ўдзельнікам бітвы на Нямізе 1067 года, а ў XX стагоддзі – апынуўшыся на Хаімштрасе (я гавару цяпер пра Мінск), калі адзін бок гэтай вуліцы быў акружаны калючым дротам, пакуль гета не было перанесена на Юбілейную плошчу і суседнія вуліцы. Тут жа былі і явачныя кватэры, а на сцяне адной з унутраных лесвіц пад столлю доўгія дзесяцігоддзі можна было прачытаць радкі: "Нас катавалі, але мы не здаліся. Мы з табой, Радзіма!" Гэта былі развітальныя словы людзей, якія жылі некалі на Нямізе.

А ў 70-я гады... Правы бок вуліцы Няміга. Урывак з пісьма аднаго са старажылаў: "У маіх вушах дагэтуль стаіць гул ад выбухаў на Нямізе – не ў сорак першым – на пачатку сямідзесятых. Тут стаялі такія моцныя каменныя дамы! Іх цяжка было разбурыць. Сэрца сціскалася. Я часта прыходжу сюды... І мне чуюцца галасы продкаў, блізкіх мне людзей, суседзяў. Галасы Мінска – старажытнага і маладога, змрочнага і ўсмешлівага, легендарнага і гераічнага". Вучні на ўроках гісторыі могуць стаць суперажывальнікамі падзей мінулага, удзельнічаючы ў бітвах супраць жорсткасці, зла, несправядлівасці, знаходзячыся ў засадзе ля "татарскага броду", на плошчы, дзе каралі смерцю Емяльяна Пугачова і дзе яшчэ да 1922 года на Нова-Маскоўскай стаяў помнік гістарычнай падзеі, апісанай у "Аповесці мінулых часоў", і там, дзе гучаў заклік князя Глеба Менскага. Дзякуючы гэтаму яны змогуць зразумець, якія актуальныя сёння словы Артэгі-і-Гасэта: "Мінулае не можа сказаць, што нам рабіць, але яно можа папярэдзіць, чаго нам не рабіць".

Каб дасягнуць гэтага, трэба прымусіць думаць, аналізаваць, параўноўваць, знаходзіць заканамернасці і супярэчнасці, з дапамогай мінулага тлумачыць падзеі сучаснасці, бо ключ да разумення таго, што адбываецца сёння, на маю думку, – у аваладанні гістарычнай памяццю, у аб'яднанні вопыту барацьбы, сталасці, грамадзянскай мудрасці дарослых і вучнёўскай шчырасці, празе і пошуку маладых. Без памяці, без традыцый і культуры няма асобы.

Сёння, рыхтуючыся да чарговай сустрэчы з дзецьмі, заўсёды сутыкаешся з праблемай, як зрабіць нашых вучняў паплечнікамі, у тым ліку і тых, хто не любіць самастойнай разумовай працы і спакойна карыстаецца плёнам дзейнасці настаўніка. Адказ быў знойдзены. Гэта тое, аб чым было сказана вышэй – суперажыванне, пошук ісціны. І таму павінна быць праблема, пошук – тое, што прымушае думаць, аналізаваць, жыць той эпохай, падзеямі. У практыцы работы я выкарыстоўваю такія заданні і пытанні: *чаму ў сярэднявеччы прыгавораных да смяротнага пакарання везлі спінай да месца смерці?* Лес рук, мноства варыянтаў адказаў, але мне патрэбен адзін. Прыгавораных везлі так, каб паказаць, што мінулае было, а будучыні не будзе... Яго везлі, а ён кланяўся направа і налева і гаварыў: "Прабач, народ, прабач, не змог". *Або на с. 55 (Гісторыя Беларусі, 6 кл.): дакажыце, што на малюнку паказаны князь. Што можна сказаць пра яго ўзрост? Пра што сведчыць выраз твару князя? Што можна ўбачыць у яго позірку? У які момант адлюстраваны князь? Чаму вы так вырашылі?* А ў якасці хатняга задання прапаную прадоўжыць радавод ад Рагвалода да сыноў Глеба Менскага.

*Або: разгледзьце план Мінска XV стагоддзя (с.147). Што ўваходзіла ў склад горада? Што цяпер там, дзе стаяў замак? Верхні рынак? Хто быў там? Што навокал? Або: наведайце тое месца, дзе некалі адбывалася бітва: "на Немиге снопы стелют головами" і "не оставил ни челяди, ни скотины". Якія пачуцці выклікаюць у вас гэтыя ўспаміны і гукі бітваў?*

Вельмі часта даю заданні такога характару:

*– якія маральныя якасці народа, палітычных дзеячаў, палкаводцаў, вядомых вучоных дазволілі дасягнуць вялікіх поспехаў у развіцці вытворчасці, гаспадаркі, навукі, мастацтва, у абароне Радзімы;*

*– без якіх якасцей гістарычных асоб нельга было б пераадолець цяжкасці і дасягнуць мэты;*

*– якія якасці асобы праявіліся ў яе ўчынках;*

*– як бы вы зрабілі на яе месцы;*

*– ці змаглі б вы так зрабіць, што для гэтага трэба;*

*– ці можна сучасны ўчынак ацаніць як гераізм, чаму;*

*– які ўчынак больш за ўсё ўразіў вас.*

Гэтымі і іншымі заданнямі можна ўвесці вучня ў ролю, вобраз гістарычнай асобы, у характар падзей, стваральніка мастацкага шэдэўра. Але гэта магчыма тады, калі аповед або праца настаўніка выклікае ў вучняў моцнае эмацыянальнае ўражанне. Дасягаецца гэта рознымі прыёмамі. Напрыклад, такімі: закрыць вочы, апусціць галаву на стол, на рукі; гаварыць ціхім, спакойным голасам (слоўны малюнак), можна на фоне спецыяльна падабранай музычнай кампазіцыі.

А ў старшых класах увага вучняў звяртаецца на маральныя праблемы: мэта і сэнс жыцця, абавязкі, сумленне, шчасце, сяброўства, каханне, Радзіма і г.д.

***

Унікальны горад Мінск, дзе жывуць нашы падлеткі і дзе чалавечая памяць пра мінулае ўвекавечана ў назвах вуліц Машэрава, Дразда, Багдановіча, Каліноўскага і соцень іншых, дзе кожны дом, узрост якога больш за 70 гадоў, – жывы сведка нашага, нягледзячы на многія трагічныя старонкі, цікавага мінулага. Як часта мы праходзім, праязджаем міма месцаў, быццам знаёмых з дзяцінства, і нават не падазраем, што яны маюць дзівосную гісторыю!

Іду ўздоўж набярэжнай, спыняюся ля гарбатага мосціка. Гэта новы. Таго ж мосціка – 1941 года – няма. Або трапляю ў Траецкае прадмесце. Пабудовы тут так шчыльна прыціснуты, нібы падпіраюць адна адну, злучаючыся паўкружжам арак. Прайсці па гэтых вуліцах, пабываць у дворыках дамоў, дзе жылі Пястрак, Лынькоў, Александроўская і інш. Не перадаць словамі пачуцця, калі пабываеш у Траецкім, Губернскім цэнтры Татарскага канца, дзе цесна ўжо сённяшняму Мінску ў вузенькіх вулачках і прыціснутых адзін да аднаго дамах. Ён імкнецца ў новае стагоддзе – дваццаць першае.

Ужо стала добрай традыцыяй пачынаць новы навучальны год тэмай "Я – мінчанін".

Вучні класа і школы пастаянна выязджаюць і наведваюць славутыя мясціны роднай Беларусі. Яны пабывалі ў турыстычных і экскурсійных паездках і музеях Мінска, Полацка, Брэста, Міра, Нясвіжа. Школьнікі часта наведваюць тыя месцы, дзе калісьці пачынаўся Мінск (раён плошчы 8-га Сакавіка), якія спадабаліся тысячагоддзі назад мудраму і ваяўнічаму Усяславу Брачыслававічу – магутнаму князю з рода Рурыкавічаў і Рагвалодаў – у маляўнічых мясцінах паўночна-заходняй тэрыторыі свайго княства. Як здолеў Чарадзей разгледзець за дрымучымі лясамі і багнай, узгоркамі і далінамі будучы фарпост на паўднёвых рубяжах свайго княства? Магчыма, менавіта ён назваў будучы фарпост дзіўным, але хрысціянскім імем Менігн, што ў перакладзе з грэчаскай азначае "падкаленак". Можа, назло фанабэрыстым суседзям – рускім князям, а можа, і ўсім няпрошаным гасцям. І вось ужо яго сын, Глеб Усяслававіч, умацоўвае княжацкі пасад, будуе храм у імя Ражаства Прасвятой Багародзіцы, судны дом. Прайсці па гэтых месцах, пабываць ва ўнутраных дворыках дамоў, дзе некалі хадзілі Чарвякоў, Багдановіч, Аладаў і многія іншыя, прасякнуцца тым унутраным станам душы, калі ты, жыхар XXI стагоддзя, непасрэдна дакрануўся да мінулага... Юны мінчанін ганарыцца гэтым. Ён дакрануўся да мінулага ў рэальным сённяшнім свеце, ён кожнай часцінкай душы і сэрца адчуў шум і гоман вулічнага натоўпу старажытнага Троіцка, здрыгануўся ад стогну званоў у Хатыні, а з вышыні Кургана Славы ўбачыў, як самкнулася кола чатырох франтоў летам 1944 года. І, прыйшоўшы разам з ветэранамі, за якімі замацаваны вучні школы, на Плошчу Перамогі і ўбачыўшы ў іх вачах слёзы і боль, яшчэ больш далучыцца да жывой памяці.

Шмат пытанняў узнікае пры такім падыходзе, калі падлеткі пачынаюць асэнсоўваць сябе ў сучасным свеце, і на іх трэба даць адказ. Каб стымуляваць падлеткаў да пастаноўкі пытанняў, перакананы, на ўроках неабходна спалучаць дзелавістасць і займальнасць, таму што вучням падабаецца ўсё незвычайнае, нечаканае, яркае. Аднак пры гэтым трэба памятаць: іх цікавіць не застылае мінулае, не попел гісторыі – у мінулым яны любяць жывыя каштоўнасці.

І я стараюся рабіць усё, каб мае выхаванцы, вывучаючы мінулае сваёй радзімы, усведамлялі сябе часцінкай вялізнага сучаснага горада з яго сённяшнімі складанымі праблемамі, вырашэнне якіх будзе залежаць ад іх.

**Уладзімір КРАЎЧАНКА, настаўнік гісторыі і сусветнай мастацкай культуры сярэдняй школы № 166 Мінска.**

Сямікласніца Крычаўскай сярэдняй школы № 6 Юля Арэшкава танцуе ў школьным самадзейным ансамблі "Калейдаскоп". Ансамбль у чарговы раз стаў лаўрэатам абласнога конкурсу.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

Ёсць меркаванне

# Школе патрэбен спецкурс па грамадазнаўству

**Людміла Іняхіна, Тацццяна Казлоўская, педагогі гімназіі-каледжа № 24 Мінска:**

Як выхаваць у школьнікаў патрыятызм ва ўмовах крызіснага стану эканомікі, палітыкі, маралі, пры нізкім узроўні жыцця людзей у параўнанні з развітымі краінамі свету? Адказ можа быць толькі адзін – любіць сваю Радзіму, свой народ гэтак жа моцна, як мы любім сваіх маці і бацьку.

У арсенале вучэбнай работы ёсць нямала магчымасцей абудзіць у школьнікаў пачуццё любові да радзімы. Пачуццё абавязку перад сваім народам, грамадзянскасць, патрыятызм – гэтыя маральныя каштоўнасці нашы настаўнікі гуманітарнага цыкла імкнуцца выхаваць праз свае ўрокі літаратуры, гісторыі, мовы, а таксама праз пазакласную работу. Вучні пішуць такія навуковыя працы як, напрыклад, "Гісторыя. Мова. Незалежнасць", удзельнічаюць у конкурсах "Мой родны горад", "Адкуль мой род", ездзяць на экскурсіі па рэспубліцы (Полацк, Віцебск, Мір, Нясвіж, Гродна, Брэст і іншыя гарады).

У гісторыі развіцця цывілізацыі ёсць праблемы, ад вырашэння якіх не ўдаецца схавацца ніводнаму грамадству. Сярод іх – войны, узброеныя канфлікты, катастрофы. Рэчаіснасць такая, што пакуль будзе існаваць іх небяспека, нельга выкрэсліваць са сваіх выхаваўчых праграм і планаў ваенна-патрыятычнае выхаванне.

На нашых класных гадзінах, прысвечаных такім тэмам як "Беларусь – на перакрыжаванні Еўропы", "Па гарадах і вёсках", "У нашых суседзяў", "Мая сталіца", "Я – мінчанін" настаўнікі перакануча гавораць аб тым, што наша рэспубліка была і ёсць зонай актыўных міжцывілізацыйных, міжкультурных кантактаў. А школьнікі прыплюсоўваюць да гэтага інфармацыю, якую пачулі па радыё ці па тэлебачанні, прачыталі ў газеце. Гэта дапамагае дзецям унікаць у дарослае жыццё краіны.

Паколькі грамадзянскасць ёсць вынік актуалізацыі прававой і палітычнай культуры, што абапіраецца на фундамент маральнасці, то грамадзянінам можна назваць менавіта чалавека, у якога сфарміравалася прававая і палітычная культура і які пры гэтым атрымаў добрае маральнае выхаванне.

Таму падаецца мэтазгодным увесці ў школе спецкурс "Грамадазнаўства" ў 5–8 класах, мэтай якога з'яўляецца садзейнічанне падрыхтоўцы школьнікаў да жыцця ў дэмакратычнай прававой дзяржаве. Гэты спецкурс сфарміруе ў дзяцей устойлівыя ўяўленні аб свеце, грамадстве, дзяржаве і яе інстытутах, асноўных сацыяльных сувязях і адносінах, палітычных і прававых сродках рэгулявання грамадскага жыцця і г.д. Вучань, які атрымае грамадзянскую адукацыю, хутчэй стане годным членам грамадства, здольным прымаць удзел у рашэнні задач самага рознага ўзроўню – ад побытавых да агульнадзяржаўных.

**Падрыхтавала Святлана СУБОЦІНА.**

# Не было безыменных герояў...

***Можна толькі здзіўляцца мужнасці і настойлівасці кіраўніка ваенна-патрыятычнага клуба "РВС" сярэдняй школы № 2 Наваполацка Яўгеніі Анатольеўны Трапезнікавай. З 1967 па 1994 гг. яна працавала настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў гэтай школе. Цяпер з'яўляецца захавальнікам фондаў школьнага музея і кіраўніком гуртка "Краязнаўцы-пошукаўцы" Наваполацкага цэнтра пазашкольнай работы.***

Гэта дзякуючы яе намаганням у школе створаны музей баявой славы, які атрымаў у 1994 годзе званне народнага. І сапраўды – з раніцы да позняга вечара ідуць у музей наведвальнікі. Хлапчукі, былыя вучні Яўгеніі Трапезнікавай, кожны дзень пасля заняткаў у сваіх вучылішчах прыходзяць сюды. Дзяўчаты, цяпер студэнткі гістарычнага факультэта Наваполацкага педінстытута, ніколі не забываюць сваю "бабулю", як яны па-добраму называюць Яўгенію Анатольеўну. А сённяшнія школьнікі кожны перапынак паміж урокамі стараюцца правесці менавіта ў музеі. Мяняецца палітыка краіны, мяняецца ўлада, але ў наваполацкай сярэдняй школе № 2 штогод у лютым Яўгенія Анатольеўна Трапезнікава прымае ў "чырвоныя следапыты" ўсё новых і новых вучняў. Па старой добрай традыцыі кожны год у яе школе праводзіцца Тыдзень памяці юнага героя-антыфашыста. Хвалюючыся, простымі словамі расказваюць юныя экскурсаводы музея сваім жа аднагодкам з розных школ горада пра ваенныя подзвігі іх равеснікаў, ураджэнцаў Віцебшчыны. Часам даводзіцца паўтараць экскурсію па 5–8 разоў у дзень, але кожны раз падлеткі хвалююцца, быццам выступаюць упершыню. І кожны раз спрачаюцца за права весці экскурсію, бо пра многія баі за свой край яны чуюць часта расказы ад саміх жа відавочцаў і непасрэдных удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. З мінулага глядзяць на сучасных школьнікаў суровыя твары вечна дваццацігадовых. Глядзяць дзякуючы членам ВПК "РВС", якія аддалі героям вайны доўг памяці. Доўг, які трэба было б вярнуць яшчэ іх бацькам і дзядам...

Яўгенія Анатольеўна мэтанакіравана займаецца патрыятычным выхаваннем моладзі. Неаднаразова яна са сваімі выхаванцамі працавала ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны РФ, каб сабраць матэрыялы для напісання полацкай раённай і гарадской кнігі "Памяць", а таксама для падрыхтоўкі раённых вахтаў памяці.

Дэвізам пошуку "чырвоных следапытаў" школы на працягу многіх гадоў з'яўляюцца словы: "Не было безыменных герояў – былі людзі". Юнымі патрыётамі сярэдняй школы № 2 выяўлена больш за тысячу прозвішчаў воінаў, якія без весткі прапалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Яшчэ ў 1975 годзе было арганізавана першае перапахаванне 170 абаронцаў Айчыны ў в.Грышына Расонскага раёна. Цяпер выхаванцы Я.А.Трапезнікавай арганізавалі збор сродкаў на абеліск і мемарыяльную дошку на месцы партызанскай пераправы ў в.Рубанава. Члены ВПК "РВС" падняў два самалёты гадоў вайны, заклалі мемарыяльны парк на месцы расстрэлу 20 тысяч ваеннапалонных і мірных жыхароў у Полацку. У 90-я гады пошукавым атрадам перапахавана больш як 500 абаронцаў Айчыны, сабрана каля 300 успамінаў ветэранаў, больш за 300 фатаграфій воінаў 6-й гвардзейскай арміі, устаноўлены імёны пяці экіпажаў самалётаў, усталяваны помнікі тым, хто загінуў на тэрыторыі Полацкага і Расонскага раёнаў.

Дзякуючы вялізнай перапісцы, якую вядуць члены савета школьнага музея, у клуба "РВС" шмат сяброў у розных гарадах і краінах не толькі сярод равеснікаў і ветэранаў Вялікай Айчыннай, але і сярод удзельнікаў вайны ў Афганістане.

Яўгенія Анатольеўна таксама прымае актыўны ўдзел ва ўсіх справах, якія ладзіць Беларуская рэспубліканская асацыяцыя "Пошук". Яна – намеснік старшыні Віцебскага абласнога гісторыка-патрыятычнага таварыства.

Вопыт работы клуба "РВС" абагульнены Віцебскім абласным аб'яднаннем пазашкольнай работы і Рэспубліканскім цэнтрам турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі, апублікаваны ў зборніку В.Д.Шалуха, Н.І.Герасіменка "Пошукавая праца – гісторыя і традыцыі" і ў метадычным зборніку "З вопыту работы народнага музея баявой славы сярэдняй школы № 2 Наваполацка". Гурткоўцы Трапезнікавай пастаянна выступаюць на абласных і рэспубліканскіх краязнаўчых канферэнцыях, з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі вучняў "Наш край".

Па выніках рэспубліканскага конкурсу на лепшы метадычны матэрыял па краязнаўчай рабоце ў 1995 г. Я.А.Трапезнікава была ўзнагароджана знакам Беларускага педагагічнага таварыства "За актыўную працу".

Яўгенію Анатольеўну Трапезнікаву добра ведаюць ва ўсіх школах горада як чалавека вялікай душы, шчырага, працавітага, гатовага ў любую хвіліну прыйсці на дапамогу. Усе свае сілы, веды, энергію Яўгенія Анатольеўна аддае высакароднай працы, якая для яе даўно ўжо стала справай усяго жыцця.

**Ларыса БРУЕВА, прэзідэнт Беларускай рэспубліканскай асацыяцыі "Пошук".**

# Пакзалі мужчынскі характар

***Зала капыльскай гімназіі, на здзіўленне, аказалася поўнай. Па ўсталяванай у маладзёжным асяроддзі традыцыі на падобныя мерапрыемствы вучні старшых класаў ідуць з неахвотай. А тут - нават у праходах і на лесвіцы немагчыма размінуцца.***

Можна было заўважыць, што ўрачыстую частку абаронна-спартыўнага свята ўсе чакалі з нецярплівасцю. Ды і самі арганізатары – Капыльскі раённы савет Беларускага абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства і Рэспубліканскі Дом БелАСТТ – былі вельмі рады такой увазе з боку маладых людзей.

Разгадка гэтай жывой цікавасці старшакласнікаў сярэдніх школ №№ 2 і 3, а таксама гімназіі Капыля да мерапрыемства, аказваецца, у тым, што яны маюць дачыненне да свята. Праводзілася яно на працягу двух дзён.

Спачатку ў спартыўнай зале гімназіі мацнейшыя прадстаўнікі выпускных класаў спаборнічалі ў падцягванні на перакладзіне, выжыманні гіры, стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, эстафетным бегу, перацягванні каната і нават у армрэслінгу. Колькі было праліта поту спартсменамі і слёз сяброўкамі, якія гучна перажывалі за сваіх хлопцаў! Але вынік аказаўся станоўчым для ўсіх.

Спартыўнае свята выйшла далёка за межы мерапрыемства, якое праводзяць дзеля "птушачкі". БелАСТТ яшчэ раз пацвердзіла рэпутацыю паважанай арганізацыі, якая на справе займаецца папулярызацыяй сярод моладзі ваенна-прыкладных відаў спорту. Школьнікі і гімназісты не проста займаліся фізкультурай. Яны ўдзельнічалі ў спаборніцтвах, якія дзякуючы іх нязмушанай і вясёлай атмасферы ніколі не забудуцца.

Другі дзень прыўнёс у будзённае жыццё вучняў не менш радасці – замест апошніх урокаў прайшоў тэматычны вечар, прысвечаны прафесійнаму святу артылерыі. З гэтай нагоды з Мінска ў раённы горад прыехаў ветэранска-акцёрскі дэсант на чале з генерал-маёрам у адстаўцы Барысам Бокавым. Педагогі школ і гімназіі, разумеючы ўсю неардынарнасць сітуацыі – не так часта рэспубліканскія арганізацыі праводзяць у Капылі выязныя мерапрыемствы такога маштабу, – з задавальненнем адпусцілі сваіх выхаванцаў у актавую залу.

Напэўна, сёння яшчэ няцяжка знайсці чалавека, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны сустракаў на перадавой фашыстаў артылерыйскім агнём. Але генерал-лейтэнант у адстаўцы Барыс Бокаў – не проста ветэран, які прайшоў суровыя выпрабаванні тых гадоў. Ягоны лёс – прыклад шматгадовага служэння Айчыне – увесь звязаны з артылерыяй. Ён прайшоў нялёгкі шлях ад курсанта мінамётнага вучылішча да начальніка Хмяльніцкага вышэйшага артылерыйскага каманднага вучылішча. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў баях, за высокія дасягненні на службе Барыс Філіпавіч узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І і ІІ ступеняў, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, ордэнам "За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР" ІІІ ступені і трыццаццю медалямі. Зразумела, такі баявы вопыт не мог застацца незапатрабаваным сучаснымі пакаленнямі, таму ветэран-артылерыст – часты госць школ і ПТВ. Ён займае адказныя пасады – першага намесніка старшыні Беларускага саюза афіцэраў і намесніка грамадскага аб'яднання "Пераможцы". Ён ведаў, што трэба расказаць падлеткам, каб яны прыслухаліся да яга слоў.

Усе падтрымалі прапанову старшыні Капыльскага раённага савета БелАСТТ Аляксандра Касінскага праводзіць падобныя спартыўныя ваенна-патрыятычныя мерапрыемствы не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах рэспублікі. Бо менавіта сельскія школы часта аказваюцца па-за ўвагай рэспубліканскіх арганізацый.

Намер часцей праводзіць мерапрыемствы такога кшталту падтрымалі і самі старшакласнікі. Ім прыйшліся даспадобы не толькі выступленні ветэранаў, але і канцэрт, які далі артысты Цэнтральнага Дома афіцэраў пад кіраўніцтвам вядомага паэта-песенніка Мікалая Палякова. Песні ваенных гадоў вельмі сімвалічна перапляліся з выступленнямі саміх вучняў.

– Мы ведаем пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны пераважна па кнігах і кінафільмах, – расказваў вучань ваенна-патрыятычнага класа капыльскай гімназіі Сяргей Скрыннік. – На такіх сустрэчах вучышся абараняць сябе і дарагіх табе людзей, месца, дзе жывеш. Гэтае абаронна-спартыўнае свята дапамагло нам пераканацца ў тым, што ва ўсе часы будуць цаніцца адвага і гонар – тыя якасці, якія неабходны кожнаму мужчыну. І сёння мы захапляемся сілай духу, мужнасцю і вечнай маладосцю ветэранаў.

Па агульным меркаванні, свята сапраўды ўдалося. Ніхто не быў абыякавым да выступленняў ветэранаў, узнагароджання памятнымі лістоўкамі выдатнікаў вучобы, падарункаў самым вынослівым і моцным па выніках спаборніцтваў. Удзельнікі свята ўшанавалі памяць загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны хвілінай маўчання і ўсклалі гірлянду да брацкай магілы воінаў, што аддалі сваё жыццё за вызваленне Капыля. Пераемнасць пакаленняў захоўваецца...

**Ігар КАНДРАЛЬ.**

# "Верасок" шануе продкаў

***Усё часцей настаўніка наведвае думка: як зрабіць так, каб выхаваць сапраўднага грамадзяніна сваёй краіны, асобу, сэнс жыцця якой быў бы звязаны з лёсам свайго народа і краіны.***

Выдатны беларускі педагог і даследчык С.А.Умрэйка, 90-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася ў 1999 годзе, заўсёды акцэнтаваў увагу на прыярытэце выхавання ў вучняў грамадзянскай мэтанакіраванасці, высокіх маральных якасцей, любові да роднай Беларусі. Вывучаючы аб'ёмную працу групы беларускіх вучоных "Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 года", мы бачым рух педагагічнай думкі па меры развіцця грамадства і ў тым ліку пераемнасць традыцый, сувязь пакаленняў, павагу да вытокаў народнай педагогікі, якія перадаваліся старэйшымі людзьмі маладым.

У сённяшняй накіраванасці працы педагога на грамадска-патрыятычнае выхаванне павінен ажыццяўляцца сістэмны аналіз жыццёвых працэсаў і вывучэнне навакольнага асяроддзя. Агульнавядомыя словы Ф.Скарыны пра глыбокую прывязанасць жывых істот да родных мясцін, дзе яны з'явіліся на свет пра родную стыхію.

Тым больш гэта ўласціва чалавеку. Пачуццёвая ўзвышанасць і чуласць да родных мясцін з'яўляюцца эмацыянальнай асновай узнікнення любові да роднага краю, да Бацькаўшчыны.

У гэтым сэнсе вялікая прастора для працы настаўніка адкрываецца пры накіраванні вучняў на вывучэнне свайго ўласнага радаводу, мовы, культуры. І перш за ўсё сам настаўнік павінен мець глыбокую нацыянальную самасвядомасць як прадстаўнік інтэлектуальнага і інтэлігентнага пласта грамадства. Настаўнік абавязаны ствараць перадумовы для далейшага свядомага жыцця чалавека-грамадзяніна, і неацэнным тут з'яўляецца еднасць душы вучня і настаўніка.

Раней у беларускай школе яркай традыцыяй было выхаванне на мадэлі каляндарна-абрадавага цыкла народных святаў, што дазваляла выкарыстоўваць разнастайную мастацкую спадчыну, выяўляць творчыя здольнасці кожнага вучня, далучаць яго да багатай народнай гісторыі. А нам, настаўнікам, трэба мець на ўвазе вытокі нацыянальнай педагагічнай спадчыны, каб нашы выхаванцы сілкаваліся ад народных крыніц, каб мелі гонар за Бацькаўшчыну.

Накіроўванне вучнёўскай дзейнасці на вывучэнне сацыяльнага асяроддзя, збор матэрыялаў у час летняга адпачынку па гісторыі канкрэтных мясцін, па іх этнаграфічнай культуры, добрых звычаяў, свят, фальклору, мовы, звестак пра імёны славутых людзей мінулага і нашых сучаснікаў – гэта ўсё павінна стаць прадметам абмеркавання на вучнёўскіх канферэнцыях, форумах, іншых відах супольнай дзейнасці, а сумесная работа з бібліятэкамі і ўстановамі культуры дасць свае добрыя вынікі.

Прыкладам пачатку такой работы з'яўляецца створаная ў сярэдняй школе №38 Мінска дзіцячая арганізацыя "Верасок" для вучняў 2–4 класаў, якая ставіць за мэту выхаванне здаровых, адукаваных, нацыянальна свядомых вучняў на глебе беларускай гісторыі і культуры, а таксама развіццё талентаў, цікаўнасці, імкнення да актыўнага ўдзелу ў пошукавай дзейнасці. Вучні аб'ядноўваюцца па класах у групы і суполкі, кожная суполка накіроўвае сваіх прадстаўнікоў у Раду "Вераска". Вынікі дзейнасці падводзяцца чатыры разы на год на агульнашкольным кірмашы. Так, у мінулым навучальным годзе праца па тэме "Мой радавод" скончылася кірмашом вучняў чацвёртых класаў "Памяць продкаў". Па гэтай тэме вучнямі быў сабраны і аформлены цікавы змястоўны матэрыял для школьнага музея.

Мяркуецца разгарнуць такую працу па ўзроставых групах: 5 – 7 класаў "Маладыя скарынаўцы"; 8 – 11 – "Даследчыкі".

Вельмі важна кансалідаваць педагагічныя высілкі ў напрамку патрыятычнага выхавання не толькі асобных настаўнікаў, а і ўсяго калектыву школы, каб сеяць сапраўды Разумнае, Добрае, Вечнае.

**Ала КАЖЭРА, педагог сярэдняй школы №38 Мінска.**

